Цана нумару 25 гр.

# ЗОЛАК

ОРГАН МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДУМКІ

Год II Вільня, Чэрвень 1934 № 2 (5)

## ПАСЬЛЯ ШАСНАЦЦАЦІ ГАДОЎ

Цяперашнія цяжкія часы, калі трудавое насельніцтва ўсяго сьвету ўжо колькі год стогне ад страшнага гаспадарчага крызісу, калі над многімі краінамі павісьлі густыя хмары чорнай рэакцыі, якая пазбаўляе працоуных нават элемэнтарных правоў свабоды, з асаблівою сілай вынырае ў нашай сьвядомасьці нядаўны рэвалюцыйны пэрыяд, пэрыяд сьветлых надзеяў і сацыяльнага творства. Рэвалюцыйныя часы перажылі ўсе народы былое Расеі, а з імі і народ беларускі. Ня гледзячы на тоя, што такі пэрыяд трываў ня доўга, усёж-такі беларускія трудавыя масы і за той кароткі час патрапілі пакінуць шмат доказаў іх свабоднай волі і калектыўных імкненьняў.

Такім праяўленьнем калектыўнай волі беларускіх масаў трэба ў першую чаргу лічыць акт абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. Акт гэты мае насгольні вялікае значаньне ў беларускім палітычным жыцьці, што дзень яго абвешчаньня стаўся беларускім нацыянальным сьвятам і арганізаванае беларускае грамадзянства сьвяткуе яго кожны год. Сёлета сьвяткаваньне 25 сакавіка ў Вільні ладзілі афіцыяльныя беларускія арганізацыі — хадэцыя і палянафілы. Зусім процілежная частка беларускага грамадзянства, якая ідэал беларускага нароцу бачыць ужо зьдзейсьненым у сучасных Саветах, выдала з нагоды гэтага дня бруковага зьместу часопіс „Асву", ў якой незалежніцкі беларускі рух 1917-18 гадоў і самы акт абвешчаньня незалежнасьці выстаўляецца, як праява дзейнасьці рэакцыйных групаў. Такая пастаноўка справы часопісьсю „Асва" мае на мэце дыскрэдытаваць у вачох пряцоўных масаў ня толькі нацыянальны рух 1917-18 г.г., але і самую ідэю незалежнасьці Беларусі.

Ня гледзячы на тоя, што сьвяткаваньне незалежнасьці ў нас адбываецца кожны год і што аб гэтай справе ўжо шмат гаварылася і пісалася, аднак сёлета яно ўсё-ж такі дало шмат новага матэрыялу, з якога можна судзіць аб тэй ролі, якую адыгрывалі розныя палітычныя групы ў час абвешчаньня незалежнасьці і аб іх становішчы цяпер.

Сваю ацэнку і сваё адношаньне да падзеяў 1917-18 гадоў беларуская хадэцыя высказала ў дзень 25 сакавіка вуснамі кс. Гадлеўскага. Ксёндз Гадлеўскі ў сваім рэфэраце спыніўся толькі на некато-

рых фактах беларускага руху з 1917-18 г.г, якія паводле дакладчыка мала ведамы: для беларускага шырэйшага грамадзянства (а што ведама, дадамо ад сябе, то сьведчыць толькі на некарысьць хадэцыі).

Вось гэта апошняе, відаць, і змусіла хадэкаў выкарыстаць сёлетняе сьвяткаваньне назалежнасьці для апраўданьня свае даволі сумнае ролі ў беларускім руху.

Цэнтральным пунктам усяго дакладу кс. Гадлеўскага была фігура вядомага на Беларусі абшарніка Рамана Скірмунта і справа пасылкі прэзыдыумам Рады Б.Н.Р. „верноподданической“ тэлеграмы імпэратару Вільгэльму.

Дакладчык стараўся ўсімі спосабамі даказаць, што роля Р. Скірмунта была дадатнім зьявішчам у беларускім руху і, што Скірмунт для беларусаў зрабіў прыблізна тое, што Чычэрын для бальшавікоў. Высьвятляючы ролю Скірмунта, кс. Гадлеўскі выказаў сум толькі ў аднэй справе, а іменна, што пашыраючыйся тады сярод беларусаў сацыялістычны рух адстрашыў ад беларускае справы многіх абшарнікаў і ня даў магчымасці Скірмунту арганізаваць беларускае абшарніцкае партыі.

Такое становішча лідэра беларускае хадэцыі для нас вельмі важна. Яно сьведчыць аб тым, што беларуская хадэцыя і да сёньня яшчэ не пазбавілася свае рэакцыйнае сутнасьці, што яна і сёньня ёсьць такою самаю, якою была ў 1917-18 г., калі знаходзілася ў арганізацыйнай лучнасьці з рознымі абшарнікамі і скакала пад дудку Рамана Скірмунта.

Што-ж тычыцца пасылкі „вернападданічэскай“ тэлеграмы Вільгэльму, то гэты крок кс. Гадлеўскі цяпер лічыць „памылкай“, але тагды, паводле яго, яна здавалася „жыцьцёвай канечнасьцью“. Апрача таго прэлегэнт цьвердзіў, што справа пасылкі телеграмы была пастаўлена на абгавораньньня Рады Рэспублікі і, што „сам прынцып пасылкі тэлеграмы ня выклікаў вялікіх спрэчак“. Паводле прэлегэнта тэлеграма была ўхвалена на тым жа паседжаньні вялічэзнаю большасьцю галасоў. Тымчасам у часопісі „Беларуская Школа ў Латвіі“ у №7 з м г. адносна гэтага чытаем наступнае: „Большасьць партый Рады Б.Н.Р. была супроць гэтае тэлеграмы, бо паміма ўсяго іншага, было прост нелёгічна толькі-што абвясьціўшы незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі ад Расеі, зараз-жа аддаваць сябе пад уладу нямецкага імпэрыялізму і манархіі. Аднак, прэзыдыум Рады Б.Н.Р. і Прадстаўніцтва тэлеграму ўсё-ж-ткі паслалі, заручыўшыся згодай Цэнтральнага Камітэту партыі Баларускае Сацыялістычнае Грамады.

Большасьць Рады Б.Н.Р. была страшэнна абурана гэтым крокам. З пратэстамі выйшлі з Рады прадстаўнікі расейскай меншасьці. Фракцыя Беларускае Сацыялістычнае Грамады выказала недаверыя Цэнтральнаму Камітэту гэтае партыі, і ўсе раднікі сацыялісты выступілі з партыі.“

Як бачым, з пасылкай тэлеграмы была ня зусім так простая справа, як яе прадстаўляе кс. Гадлеўскі. Аказваецца, што супраць пасылкі тэлеграмы пратэставалі сапраўдныя сацыялісты, для каторых

такая акцыя была не „памылкай“, як цяпер кажа кс. Гадлеўскі, але — праступленьнем Калі гэта так, то чаму хадэкі толькі пасьля шаснаццаці гадоў назвалі памылкай тое, што супольна з абшарнікамі рабілі? Зразумела, сам ініцыятар тэлеграмы, абшарнік Скірмунт, свой тагачасны крок памылкай не назаве, бо для абшарнікаў тагды запраданьне Беларусі манархістычнай Нямеччыне было адзіным спосабам забясьпечаньня сваіх маёнткаў ад рэвалюцыйнага права. Ня менш страшнай была рэвалюцыйная справядлівасьць і для хадэкаў. Для іх разам з рэвалюцыяй няўхільна ішло аддзяленьне касьцёла і царквы ад дзяржавы, дзякуючы чаму інтарэсы хадэкаў і абшарнікаў супадалі. Таму пасылка „верноподданіческай“ тэлеграмы ня можа быць памылкай і для хадэкаў. А калі-ж сёньня яны так яе называюць, дык толькі дзеля таго, што яна не дала ім пажаданых вынікаў — што Беларусь не апынулася пад ботам нямецкага манархізму і, нарэшце, што гэтай тэлеграмай хадэкі паказалі сваё сапраўднае аблічча перад працуючымі Беларусі.

Апрача хадэцкага сьвяткаваньня 25 сакавіка адбылася яшчэ другая акадэмія, зладжаная бел. палянафіламі. Тут рэфэрат прачытаў гр. А. Луцкевіч, які ў беларускіх падзеях 1917-18 г.г. адыгрываў не малую ролю. Як падае №7(24) „Баларускае Школы ў Латвіі“, дзякуючы стараньням гр. А. Луцкевіча і яго брата Івана было ўведзена ў Раду Б.Н.Р. абшарніцка-хадэцкае „Прадстаўніцтва“, якое пасьля з дапамогаю тых-жа братоў Луцкевічаў спрычынілася да пасылкі-тэлеграмы Вільгельму.

Адносна-ж зьместу самога рэфэрату, то ў ім гр. Луцкевіч стараўся правесьці тую думку, што быццам ў беларускім народзе ідэі палітычнай незалежнасьці да сакавіка 1918 г. ня было і што яна паўстала пасьля адарваньня часткі беларускіх зямель немцамі ад Расеі. — Думка, на наш пагляд, ня толькі ў грунце рэчы няправільная, але да таго й вельмі шкодная. Кожны народ, які толькі асобным народам сябе пачувае, абавязкова мае незалежніцкі ідэал. Было-б зусім ненатуральным, каб народ, будучы сацыяльнаю групаю, не жажадаў паўнаты сваіх функцыяў, — палітычнай незалежнасьці. Гэтае жаданьне ёсьць цалком прыроднае. Вось-жа, дзеля гэтага, і народ беларускі (або сьведамая яго частка), калі пачуваў сябе асобным народам, заўсёды меў і ідэал незалежнасьці. Зразумела, што народ сьведамы сваей нацыянальнае абасобленасьці, не заўсёды гэты свой ідэал выстаўляе як дамаганьне, як задачу дня. Апошняе залежыць ад тых абставінаў, у якіх народ знаходзіцца. І наш народ у часе свайго гістарычнага жыцьця ставіў сабе розныя палітычныя задачы: то імкнуўся да пойнай незалежнасьці, то йшоў на вунію, а то дамагаўся аўтаноміі і г.д., але ідэалу назалежнасьці ён ніколі не выракаўся і ня мог выракацца. Памылка гр. Луцкевіча ў падыходзе да справы незалежннасьці ясная і відавочная. Але гэтага мала. Гр. Луцкевіч, каб узмацніць значаньне акту 25 сакавіка, тварцом якога сябе лічыць, стараецца абнізіць цэннасьць іншых бел. гістарычных фактаў. Прыкладам, беларускага сацыяльнага рэвалюцыянэра К. Каліноўскага залічае да палякоў, а яго дзеяльнасьць кваліфікуе як чыста польскую. Далей гр. Луцкевіч прабуе абнізіць значаньне часопісі

„Гоман“, што асабліва яскрава было відаць з яго рэфэрату, які меў месца сёлета ў Т-ве Беларусаведы з нагоды 50-х угодкаў выхаду гэтае часопісі. Тагды гр. Луцкевіч адзначыў, што часопісь „Гоман“ у свой час вялікага ўплыву не зрабіла і ў доказ апошняга адчытаў пісьмо ад свайго знаёмага з Менску. Вось гэныя апошнія дадзеныя сьведчаць ня толькі аб памылковасьці падходу гр. Луцкевіча да фактаў гістарычных, але яшчэ і аб тэндэнцыйнасьці самага падходу.

У канцы мусімо сказаць, што мяшчанскія групы ў нас, ня гледзячы на шаснаццаці-гадовую практыку, нічога не навучыліся і, што дзеяльнасьць іх, відаць, будзе і надалей тормазам у беларускім руху, покуль беларускія трудавыя масы, аб'яднаўшыся пад сьцягам сацыялізму, ня возьмуць народнае справы ў свае мазольныя рукі.

# У 50-я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЧАСОПІСІ „ГОМАН“

Гэта было ў 1884 годзе...

Гурток беларускай моладзі, шчыра захопленай і натхнёнай высокімі ідэаламі сацыялізму, вядучы напружанае змаганьне з расейскім самадзяржаўем, які паняволіў беларускі народ, — пачаў выдаваць „Гоман“, нелегальна і нават літаграфскім спосабам, але духам сільную, баёўную часопісь, якая сваім народніцка-сацыялістычным зьместам наяўна выявіла сацыяльна-нацыянальныя мэтаімкненьні ўсяго беларускага народу.

У гісторыі беларускае журналістыкі часопісь „Гоман“ займае пачэснае мейсца. Гэта была другая баларуская часопісь; першая, як ведама, была „Мужыцкая Праўда“*).

Каб правідлова зразумець мейсца і значаньне часопісі „Гоман“ у гісторыі разьвіцьця беларускае грамадзкае думкі, трэба мець на ўвазе тыя абставіны, у якіх яна пачала выдавацца.

Расейская самадзяржаўная ўлада, разграміўшы паўстаньне на Беларусі 1863 году, у якім беларускія паўстанцы-рэвалюцыянэры з аружжам у руках змагаліся за волю і незалежнасьць беларускага народу, — абярнула наш край у магільнік. Амаль на дваццаць гадоў спынілася разьвіцьцё беларускае грамадзкае думкі. Задушана і зьнівэчана было, так слаўна разпачатае ў 1863 годзе, беларускае сацыялістычнае часопісяцтва (журналістыка): са сьмерцю Кастуся Каліноўскага, які загінуў за народную справу на шыбеніцы, заняпала і першая беларуская сацыялістычная часопісь „Мужыцкая Пьаўда“. Разам з Каліноўскім загінулі ад рукі маскоўскага ката выдатнейшыя прадстаўнікі беларускага рэвалюцыйнага народніцтва, сотні лепшых

---

*) Аб часопісі „Мужыцкая Праўда“ было сказана ў № 2 ім нашае часопісі за 1933 г.

сыноў Беларусі: адны ў пятлі на шыбеніцах, а іншыя ў турмах, у катаргах і ў высылцы на пасяленьні ў далёкае Сыбіры. Над беларускай зямлёю павісла цёмная хмара рэакцыі. Беларусь абернута была ў край магіл і крыжоў. Над прыгнечаным і паняволяным беларускім народам гудзеў хаўтурны звон...

І вось, у гэты сумны і трагічны час зьявілася ў сьвет часопісь „Гоман“ — беларускі сацыяльна-рэвалыцыйны агляд. Над крыжамі бацькоў і над магіламі высока пачаў трымацца сьцяг праўды і волі.

„Цяпер ужо мінуў час падзелу народаў на вышэйшыя, пакліканыя ўладаць, і ніжэйшыя, падуладныя“ — чытаемо ў першым нумары часопісі „Гоман“. — „Раз узьнікшае народнае самаўсьвядамлень не ня можа ўжо спыніцца“. — „Пазнаўшы свае сілы, беларускі народ зараз-жа скажа сваім гнабіцелям: прэч эксплёатацыю, мы самі жадаемо ўпраўляць сабой! Прэч чужыя рукі! Беларусь павінна быць для беларусаў, а не для чужых элемэнтаў!“.

У гэтых кароткіх, але зусім выразных словах наяўна і поўнасьцю выяўляюцца тыя аснаўныя прынцыпы дэмакратыі, якія пакладзены ў аснову ідэйных мэтаімкненьняў сучаснага беларускага вызвальна адраджэнскага руху:

1. воля і роўнасьць ўсіх людзей і народаў;

2. на беларускай зямлі ўся паўната ўлады мае належаць беларускаму народу!

Часопісь „Гоман“, прадаўжаючы слаўную традыцыю „Мужыцкае Праўды“ высока падняла сьцяг змаганьня за волю і незалежнасьць Беларусі.

Рэвалюцыйна-незалежніцкая праграма часопісі „Гоман“ вельмі ўстрывожыла расейскіх нарадавольцаў, якія хацелі бачыць рэвалюцыйную Расею ў тых самых межах, што насільствам былі ўстаноўляны праступным царызмам.

У часопісі „Вэстнік Народной Волі“, якая выходзіла пад рэдакцыяй Пятра Лаврова і Льва Ціхамірава і ставіла сабе мэтаю аб'еднаньне ўсіх нарадавольцаў (Жэнэва 1883-1886) зьмешчаны быў артыкул, у якім Леў Ціхаміраў востра палемізуе з рэдакцыяй часопісі „Гоман“*). Імкнецца даказаць усю тую „шкоднасьць“, якая ўзьнікае для беларускага народу, калі Беларусь усамастойніцца і поўнасьцю аддзеліцца ад Расеі. Ён кажа: „Дык вось ў чым выхад, вось на што спадзяюцца людзі, якія ўзяліся да прабуджэньня беларускага народу!“. Але, ня маючы ніякіх пераконваючых аргумэнтаў „усей шкоднасьці“ для беларускага народу быць самастойным гаспадаром на свае роднае зямлі, Леў Ціхаміраў, як расейскі патрыёт, з трывогай і сумнівам узіраецца ў будучыню, старанна прыкрываючы пры гэтым свой расейскі патрыятызм і вялікадзяржаўніцтва сваеасаблівай мэтафізыкай і пачуцьцёваю лірыкай любові да народа. Ён кажа, зьвяртаючыся да рэдакцыі часопісі „Гоман“: „Вы кажаце аб волі. аб зьнішчаньні эксплёатацыі і абсалютызму, вы ставіце сабе заданьні арганізацыі краёвых групаў у згодзе з плянамі Народнай Волі, рэдка зразумелымі так добра“...(!) — „Усё гэта, аднак, можа быць і надта добра, і можа ня мець ніякага значаньня, можа быць нарэшце і проста шкодна для народа, гледзячы на тоя, як вы разумееце пытаньне

аб народзе, аб народнай уладзе, аб народным самаўсьвядамленьні, міжнароднай і нацыянальнай салідарнасьці".*)

Як жа, мауляў, беларускі народ пачне жыць, калі ўжо ня будзе над ім расейскае самадзяржаўнае ўлады, калі ўжо ня будзе над ім расейскае апекі!...

Гэтак выглядала справа аўтаномнае Беларусі ў складзе Расейскае фэдэрацыі. аб якой так шмат ужо напісана ў беларускай гістарычнай літаратуры ў сувязі з выданьнем часопісі „Гоман".

У сапраўднасьці, як бачымо, часопісь „Гоман", як прад тым часопісь „Мужыцкая Праўда", цвёрда і рашуча стаяла на грунце поўнае волі і самастойнасьці Беларусі.

Баёўны покліч часопісі „Гоман" — мы самі жадаемо ўпраўляць сабой! — гэта ёсьць наш баёўны покліч! А. П.

# ІГНАТ ГРЫНЯВЕЦКІ

Беларускае рэвалюцыйнае народніцтва мае сваіх вялікіх папярэднікаў. Да іх ліку належыць і векапомны Ігнат Грынявецкі.**)

Жыцьцё Ігната Грынявецкага было вельмі кароткае. Але колькі ў ім было напружанага змаганьня за волю народную, колькі самаахвярнае працы для дабра народнага!

Нарадзіўся Грынявецкі ў 1856 годзе ў Меншчыне, дзе яго бацька меў невялікую гаспадарку на вёсцы. У 60-х гадох бацька з усім сямействам, якое складалася з адзінаццаці душ, пераехаў у Горадзеншчыну, у Бельскі павет, дзе таксама займаўся гаспадаркай на вёсцы і меў невялікі фальварак. Малады Ігнат, як і кожны вясковы хлапец, памагаў у гаспадарцы: выконваў усе працы, якія былі ў яго сіле. Апрача таго хадзіў у школу. Вучыўся ў Бельскай павятовай школе, якую скончыў у 1868 годзе. Пасьля ён паступіў у Беластоцкую рэальную гімназію, дзе, каб мог вучыцца, мусіў зарабляць сабе на пражыцьцё урокамі ды іншай працаю. У 1875 годзе, скончыўшы сярэднюю школу адным з лепшых вучняў, рашыў паступіць у Тэхнолёгічны Інстытут у Петраградзе. Тут ён прымае чынны ўдзел у студэнскім жыцьці, як раней прымаў чынны ўдзел у жыцьці вучнёўскае моладзі ў Беластоку, дзе яшчэ сьвежыя былі ўспаміны на беларускую рэвалюцыйна-народніцкую дзейнасьць Кастуся Каліноўскага і на яго першую беларускую сацыялістычную часопісь „Мужыцкая Праўда". Гэта ўспружынявала волю беларускае моладзі. Заклікала да гэраічнага пасьлядаваньня.

Апынуўшыся ў Петраградзе, Ігнат Грынявецкі ні на адну хвіліну не пераставаў думаць аб родным краі. І вось, у 1879 годзе за-

---

*) Лев Тихомиров, „Запросы времени" („Вест. Нар. Волі" №4)

**) У беларускай гісторыяграфіі памылкова пішыцца Грыневіцкі. Трэба пісаць Грынявецкі, як гэта напісана ў яго біографіі.

сноўвае студэнскі гурток, які ставіць мэтаю ісьці ў народ, але не з прапагандаю словам, як гэта ў той час было звыкам, а чынам — баёўнымі атрадамі. як гэта рабіў Кастусь Каліноўскі пад час паўстаньня 1863 году. Ігнат Грынявецкі сам едзе на вёску, ідзе ў народ, у сялянскія гушчы, абходзіць вёскі і мястэчкі Беларусі, зьвяртаецца з гарачым заклікам да мяйсцовае інтэлігэнцыі, шукае пры-



**Ігнат Грынявецкі.**

хільнікаў і аднадумцаў. Алеў восені 1879 году вяртаецца ў Петраград. Склікае сваіх сяброў на вялікую нараду. Ён каротка ім кажа: „Я працую для народа, я заўсёды буду старацца, паскольку гэта будзе магчыма, дзейнічаць праз народ, але мне здаецца, што мы ставімо немагчымыя, надта далёкія, незразумелыя практычныя мэты“. Грынявецкі ў той час прыйшоў да выснаўку, што для народа будзе ляпей, калі рэвалюцыйная партыя захопіць уладу ў Расеі. Гэта прывяло яго ў шэрагі нарадавольцаў, якія і аснаўным сваім заданьнем уважалі зьнішчаньне ў Расеі царскага самадзяржаўя. З гэтага часу ўся яго дзейнасьць накіроўваецца ў адну точку: зьнішчаньне самадзяржаўнае ўлады ў Расеі. Ён выступае ў ролі арганізатара рэвалюцыйных гурткоў сярод піцярскіх работнікаў і ў ролі тэрарыста. Арганізуе нелягальную друкарню, прымае чынны ўдзел у выданьні часопісі „Рабочая Газета“, арганізуе распаўсюджаньне нелягальнае літаратуры. Разам з тым прыймае чынны ўдзел ў падрыхтоўцы да

выкананьня прысуду сьмерці над жорсткім тыранам — над расейскім самадзяржаўным царом Александрам Другім.

У сваім тастамэнце, які ў той час напісаў, ён кажа: „Александр Другі павінен памерці. Дні яго зьлічаны. Мне ці іншаму каму прыдзецца нанесьці апошні удар, які гучна разьнясецца па ўсёй Расеі і рэхам адгукнецца ў найдалейшых кутках яе, — гэта пакажа недалёкая будучыня. Ён памрэ, а разам з ім памром і мы, яго ворагі, яго забойцы, гэта патрэбна для справы свабоды... Мне ўжо ня прыдзецца прымаць удзел у апошнім змаганьні. Доля асудзіла мяне на раньнюю загубу, і я ня ўбачу перамогі, ня буду жыць ні аднаго дня, ні часіны ў сьветлыя дні перамогі, але ўважаю, што сваей сьмерцю зраблю ўсё што павінен быў зрабіць, і большага ніхто, ніхто на сьвеце вымагаць ня можа. Справа рэвалюцыйнай партыі запаліць сабраны ўжо матэрыял, кінуць іскру ў порах і затым прыняць меры, каб узьнікшая справа скончылася перамогаю".

Першага сакавіка 1881-га году настаў вялікі час расплаты.

Ігната Грынявецкага бачылі за некалькі мінут да сьмерці. Спакойны, з усьмешкаю на вуснах, ён панукаў возчыка, каб мінута ў мінуту быць на вызначаным мейсцы. На тым асудным мейсцы ён таксама спакойна стаяў, мерыў вокам адлегласьць паміж сабой і сваім царскім ворагам пакуль, нарэшце не падняў сваю бомбу, каб адным верным ударам забіць тырана і сябе.

Катастрофа 1-га сакавіка 1881-га году, якая адбылася на Кацярынінскім канале ў Петраградзе, — гэта няўхільная лёгіка гісторыі. З нетраў беларускага народу павінен быў выйсьці адважны змагар, каб адплаціць расейскай самадзяржаўнай уладзе за ўсё тоя, што яна зрабіла на Беларусі, над беларускім народам. Гэта быў дастойны адказ беларускага рэвалюцыянэра!

Нельга не адзначыць, пры гэтым, некалькі своеасаблівых рысаў для характэрыстыкі Грынявецкага, як чалавека і грамадзяніна.

Ён заўсёды быў ціхі, скромны, дабрадушны, працавіты і вельмі вытрывалы, няпрыхотлівы ў сваіх патрэбнасьцях, адзыўчывы на чужое гора, у кожную хвіліну гатовы прыйсьці з дапамогаю тым, хто ў нечым меў бяду, лагодны ў адношаньні з сябрамі, ня меў самалюбства і ня імкнуўся да асабістае славы, але разам з тым — быў глыбока замкнуты ў сабе і маўклівы. Ня любіў шмат гутарыць. Яго словы ніколі не разыходзіліся з чынам. Яго думкі былі ўстойлівыя: калі нешта казаў, то выразна і з поўным перакананьнем. Быў чалавек чыну. Для яго думаць азначала дзейнічаць. Яго дэвізам было: служэньне народу. Усё для народа. Каб зрабіць штонебудзь, патрэбна змаганьне, вострае і напружанае змаганьне!

Такім яго ўсе ведалі, з кім ён сустракаўся на сваім кароткім жыцьцёвым шляху, на шляху працы і змаганьня.

І яшчэ адна характэрная рыса. Гэта апошні мамэнт у жыцьці Грынявецкага.

Апрача некалькіх асоб, засьвечаных у таямніцу справы, ніхто ня ведаў імя таго маладога чалавека, які адважна кінуў бомбу, ад разрыва якой загінуў сам і расейскі самадзяржаўны цар Александр Другі. Калі ў яго спыталіся перад сьмерцю: „хто вы такі?"—ён ад-

казаў: „ня ведаю“. Грынявацкі хацеў памерці, як звычайны вяяка — безназоўным, як адзін з мільёнаў.

У гісторыі беларускага рэвалюцыйнага народніцтва Ігнат Грынявецкі займае пачэснае мейсца. Пры яго чынным удзеле заснаваўся і той гурток беларускае моладзі ў Менску, які ў 1884 годзе выдаваў часопісь „Гоман“. — б.

# САМААРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦОЎНАГА НАРОДУ

(працяг)

І так: сувязь узаемачынных людзкіх асабістасьцяў, мы кажамо, стварае асаблівую рэальнасьць істнаваньня суспольства. Гэта ёсьць псыхічная рэальнасьць. Адрозьніваецца ад фізычнае рэальнасьці ў сьвеце тым, што зьяўляецца вынікам цывілізацыі: наўмыснае і ўсьвядомленае дзейнасьці людзкіх асабістасьцяў.

Суспольства ня ёсьць арганізм, ня ёсьць і простая сума ці-то мэханічнае злучэньне пэўнай колькасьці людзей. Суспольства — гэта арганізацыя, гэта ёсьць сувязь узаемачынных людзкіх асабістасьцяў

Разгледзімо цяпер, што маемо разумець пад словам узаемачыннасьць.

Чалавек у самоце і той самы чалавек у суспольстве, як толькі пачынае ўваходзіць у стыкі і ўзаемаадносіны з іншымі людзьмі,—зусім мяняецца, становіцца іншым Гэта наяўна выяўляецца ў паступоўваньні. Адзін і той самы чалавек — у самоце і ў суспольстве — паступае зусім інакш.

Прычына гэтае зьмены палягае ў тым, што самотны чалавек, уваходзячы ў стыкі і ўзаемаадносіны з іншымі людзьмі, ўспрымае рад новых уражаньняў, якія ўзбуджаюць ў яго нэрвовай сыстэме адпаведныя рэагаваньні. У залежнасьці ад колькасьці і якасьці ўспрынятых уражаньняў, ад сумы іх ды інтэнсыўнасьці, адбываецца і адпаведная чыннасьць: спачатку ненаўмысна-інстынктыўнае рэагаваньне, потым наўмыснае і наўмысна-ўсьвядомленае паступоўваньне.

Нават і самотны чалавек, як і кожны жывы арганізм, ня можа не рэагаваць на ўражаньні вонкавага сьвету — на ўсё тое, што наўкола яго дзеіцца. А дзеіцца шмат што Вось ён і змушаны быць актыўным, чынным. І тым боьшая гэта актыўнасьць, чым большую суму атрымлівае ўражаньняў, чым большая іх інтэнсыўнасьць.

Чалавек ня толькі ўспрымае ўражаньні вонкавага сьвету ды на іх рэагуе; ён разам з тым адчувае, перажывае, думае. Чалавек ёсьць бытасьць чынная, актыўная. Гэта актыўнасьць павялічаецца ці зьмяншаецца ня толькі ў залежнасьці ад тых ці іншых уражаньняў, якія ўспрымае з вонкавага сьвету, але таксама, а мо' і ў большай меры, у залежнасці ад стану сьвядомасьці—ад усьведамленьня патрэбнасьці ўласнага чыну.

Стыкі і ўзаемаадносіны паміж людзьмі, часамі нават мімалётныя, узбуджаюць пэўную колькасьць і якасьць уражаньняў. Гэныя ўражаньні могуць быць дваякія: прыемныя і няпрыемныя. Прыемныя,

калі яны спрыяюць істнаваньню; няпрыемныя, калі яны шкодзяць істнаваньню. Не малое значаньне мае, пры гэтым, і прывычка: прыемна тое, да чаго мы звыклі; няпрыемна, што нам нязвычнае, чужое. У залежнасьці ад гэтага зьмяняецца і паступоўваньне чалавека. Усё тое, што ўзбуджае прыемныя ўражаньні, што дае радасьць і насалоду ў жыцьці, чалавек імкнецца затрымаць; наяўна выяўляе сваю радасьць, сваё задаваленьне, калі гэта ўдаецца яму дасягнуць. А ўсё тое што ўзбуджае няпрыемныя ўражаньні, што спрычыняе смутак і цярпеньні, чалавек імкнецца ўхіліць; гневаецца пры гэтым, калі яму не ўдаецца гэтае жаданьне зьдзейсьніць.

Чалавек у стане радасьці і ў стане смутку — гэта зусім іншы чалавек: мае зусім іншы выгляд, зусім інакш пасгупае. Гэта наяўна выяўляецца ў яго міміцы, ў яго рухах, палажэньні цела, ў інтанацыі голасу.

Усе зьмены ўнутранага псыхічнага стану індывіда выклікаюць адпаведныя зьмены яго вонкавага выгляду і спосабу паступоўваньня. А гэта, ў свой чарод, уплывае на псыхіку іншых — усіх тых, з кім ён уваходзе ў стыкі і ўзаемаадносіны. Устанаўляецца пэўны псыхічны кантакт. Уражаньні, адчуваньні і перажываньні адных перадаюцца іншым: кожная акцыя ўзбуджае адпаведную рэакцыю. Гэтак ўзьнікае ланцуг узаемных уражаньняў, адчуваньняў, перажываньняў двух або некалькіх індывідаў; устанаўляецца між імі ўзаемачыннасьць, калі паступоўваньне аднаго выклікае адпаведнае паступоўваньне другога, трэцяга ды іншых.

Узаемачыннасьць двух індывідаў ёсьць простая; узаемачыннасьць аднаго і двух, аднаго і трох, чатырох — складная; яшчэ больш складная, калі ўзаемачыннасьць адбываецца паміж гурткамі, групамі і грамадамі.

Адзначымо пры гэтым, што ўзаемачыннасьць двух індывідаў ёсьць элементарная суспольная зьява. Гэта ёсьць аснаўны элемэнт у вялікай і складной будове людзкога суспольства, як, скажамо, атом у неарганічнай прыродзе, як жывая клетка ў арганічнай прыродзе.

З гэтых аснаўных элемэнтаў — з узаемачыннасьці двух або некалькіх індывідаў — складаецца ўся пстракатая тканіна ўсіх суспольных зьяваў. На гэтыя аснаўныя елемэнты можна раскласьці ўсе найбольш складныя зьявы ў жыцьці і дзейнасьці людзкога суспольства.

( д. б. ) Т. Г.

# ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС і КАПІТАЛІСТЫ

Сучасны тэхнічны прагрэс пачаў свой трыумфальны паход вынахадам паравое машыны. Пераважаючая дагэтуль у вытворстве людзкая фізычная сіла з пераходам да машыннага вырабу замянілася сілаю воднае пары а пазьней і электрычнасьцю. Уладальніку фізычнае сілы — работніку засталася роля абслугача машыны. Усьцяж ідучыя за сабою ўлепшаньні і вынаходы ў галіне тэхнікі настолькі пасунулі выраб наперад, што ён цяпер вельмі лёгка можа

здаволіць усе матэрыяльныя патрэбы чалавецтва пры параўнальна невялікай патраце энэргіі. Аднак жыцьцё людзтва не палепшылася, а гэта дзеля таго, што прагрэс адбыўся толькі ў галіне тэхнікі, грамадзкая-ж арганізацыя асталася старая, а калі дзе і быў які поступ, дык вельмі абмежаны. Такім чынам лад гаспадарчы і сацыяльны далёка ў задзе ад тэхнічнага прагрэсу, што гэтак бліскуча увідавочнілі нядаўна амэрыканскія тэхнакраты. Астаючаяся ўсьцяж у сіле „сьвяшчэннае" права прыватнае ўласнаснасьці прычынілася да таго, што ўласьнікамі машынаў аказаліся капіталісты, а насьледкам гэтага яны толькі адны могуць карыстаць з усіх выгадаў машыннага вырабу.

Зьяўленьне паравое машыны, якая зрабіла цэлую рэвалюцыю ў прамысловасьці, не магло абыйсьціся без забурэньняў сацыяльных і гэтыя забурэньні былі. Рабочыя масы, якім машына адбірала працу, абураліся, нападалі на машыны і нішчылі іх. Толькі жорсткія рэпрэсыі з боку ўладаў супроць бунтуючыхся давалі змогу капіталістам пушчаць у ход сваіх гігантаў. Машына пачала працаваць і чым далей, тым больш умацоўвала сваё становішча, масава ліквідуючы дробныя рамесьніцкія прадпрыемствы. Работнік паволі прывык да машыны і, пазнаўшы ўсю выгаду машыннага вырабу перад ручным, пачаў думаць, як бы гэтага стальнога „гіганта-работніка" вызваліць ад улады капіталістаў і зрабіць яго слугою ўсяго людзтва. Пачаў расьці і крапчэць сацыялістычны рух сярод рабочых масаў, а разам з гэтым і вострая клясавая барацьба, ў выніку якое не выключаецца магчымасьць сацыяльнае катастрофы.

Апрача гэтага апошняга, чаго капіталісты найбольш баяцца, для іх ёсьць яшчэ іншага роду труднасьці а паіменна: магчымасць надпрадукцыі, дзякуючы якой паўстаюць гаспадарчыя крызісы, якія цесна зьвязаны з капіталістычным машынным вырабам. Эканамічныя крызісы адбываюцца пэрыядычна і чым далей, тым вастрэйшы іх прабег. Каб выключыць паміж сабой канкурэнцыю і ўтрымаць цэны на пажаданай для сябе вышыні, капіталісты ідуць на ўгоду і скарочваюць выраб, або проста нішчаць выраблены гатовы прадукт, нічуць не зважаючы на тое, што патрэба на гэтыя прадукты ў шырокіх масах далёка не заспакояна.

Мы ўжо некалькі гадоў чуем, што капіталісты ў варварскі спосаб нішчаць людзкую працу. Так у Каліфорніі выліта вон вялікая колькасьць малака, у Бразыліі колькі сот тысячаў кіляграмаў кавы ўкінута ў мора, у Канадзе пшанічным зярном прабуюць аграваць паравозы, а бавоўну ў паўночнай Амэрыцы ўжываюць для ўгнаеньня палёў. Усюды скарочваецца выраб вугля, газы, каўчуку і г.д. Усе гэтыя і ім падобныя захады, бязумоўна, спрычыняюцца да падняцьця цэнаў, аднак гэта звычайна ня трывае доўга. Зьменшаньне прадукцыі цягне за сабою новы ўзрост безрабоцьця, далейшае абніжаньне пакупнае здольнасьці ў насельніцтва а згэтуль і новую надпрадукцыю. Апрача таго й дагода памік капіталістамі йдзе ня так ужо гладка. Ня гэтак даўно міжнародны картэль па вырабе электрычных лямпачак з мэтаю падняцьця цэнаў на іх зьнішчыў некалькі мільёнаў штук свайго тавару, аднак паўстаўшая, дзякуючы гэта-

му, звыжка цэнаў трывала нядоўга, бо хутка на эўрапэйскі рынак зьявіліся электрычныя лямпачкі японскага паходжаньня і ў дадатку шмат таннейшыя. Што цяпер рабіць картэлю і як змагацца з японскім канкурэнтам, які карыстаецца ў вырабе новай машынай, аснаванай т. зв. Cornigs-Prozess, якая можа прадукаваць каля 650.000 лямпак у дзень, інакш кажучы, у 550 разоў хутчэй у параўнаньні з дасюляшнімі ?! Як бачым на гэтым прыкладзе, удасканаленая машына, новыя вынахады робяць вельмі шмат клопату капіталістам. І ёсьць чаго баяцца: той, хто заўладае патэнтам новае, удасканаленае машыны, будзе пераможцам у канкурэнцыі, але адначасна і сама купля патэнту для кожнага капіталіста ў паасобку ёсьця даволі рызыкоўная. За патэнт трэба заплаціць вялікія грошы, дасюляшнія свае машыны скасаваць і ўкласьці салідны капітал для пабудоўкі новых. А хто-ж загварантуець, што за нейкі час, калі новая машына яшчэ ня здолела сябе акупіць, ня знойдуць штось новае, больш дасканальнае? Зразумела, што капіталістам лягчэй забясьпечыць сябе ад новых вынахадаў калі яны згуртаваны. І вось мы бачым, як вялікія картэлі і канцэрны скупляюць патэнты і карыстаюць з іх у меру патрэбы. Часта бывае, што патэнт і зусім не пабачыць сьвету, схованы ў шуфлядак якога-колечы канцэрну. Калі нейкае аб'еднаньне капіталістаў пушчае ў ход лепшыя машыны, дык гэта не адаб'ецца ад'емна на тых сяброх аб'яднаньня, якія маюць адсталае тэхнічнае абарудаваньне — іх машыны будуць спынены, а за гэта ім будуць плаціць адпаведныя прэміі.

Прыклады барацьбы арганізаванага капіталу супраць тэхнічнага прагрэсу знайсьці можна ўсюды. Так у Нямеччыне ў табачным промысьле забаронена ўжываньне навейшых машынаў. Апрача таго нямецкія стальныя прамыслоўцы дагаварыліся не карыстацца з г.зв. Крэфэльдаўскага апарату. Машына гэтая ў 1 гадзіну можа вырабіць 10.000, а ў год 25 мільёнаў ножыкаў да брытвенных апаратаў. Дваццаць такіх машынаў можа замяніць усю прадукцыю брытвенных ножыкаў Золінгена — найбуйнейшага цэнтру гэтага роду прамысловасьці ў Эўропе; кожная з гэтых машынаў каштавала-б да 1 мільёна ням. марак. У той-жа Нямеччыне дайшло ўжо да таго, што пачала шырыцца прапаганда за ападаткаваньне машынаў. Гэта, бязумоўна ськіравана супроць тэхнічнага поступу і для падтрыманьня больш адсталых прадпрыемстваў. Супраць апошняга праекту ў прамысловых кругох паўстаў іншы праект, паводле якога дзяржава ўзяла-б на сябе абавязак вясьці надзор над уводжаньнем новых машынаў і гэткім спосабам стрымліваць тэхнічны поступ.

Прыведзяныя прыклады ясна паказываюць, што капіталістычны сьвет змагаецца з надпрадукцыяй не шляхам павялічаньня спажыцьця ў масах насельніцтва, але шукае спосабаў, якія ставілі-б натуральную перашкоду ўзрастаючаму вырабу і, ідучы ў гэтым напрамку, стараецца ў першую чаргу спыняць тэхнічны прагрэс. Замест старых машынаборцаў, якімі перш былі работнікі, цяпер паўсталі новыя, але гэтым разам ужо самі капіталісты. Перамена роляў, бязумоўна ня сталася здарма. Той самы тэхнічны поступ, які ў капіталі-

стычнай сыстэме знайшоў адпаведныя ўмовы і прыняў шырокі размах, цяпер знайшоў ворагаў у саміх капіталістах.

Капіталізм, дажываючы свой век, у прадсьмертнай агоніі пачынае нішчыць тое, што сам стварыў. Мн.

# Паўстаньне аўстрыйскіх рабочых

У пачатку лютага сёлетняга году над Аўстрыяй пранясласа вялікая бура: адбылося паўстаньне рабочых, якое, аднак, было разгромлена ўзброенаю сілаю ксяндзоўска- фашыстаўскае ўлады дыктатара Дольфуса.

У чым была прычына гэтага паўстаньня і чаму аўстрыйскія рабочыя падлеглі ў няроўным змаганьні?

Адказ на гэтыя пытаньні знаходзімо ў кнізе Отто Баўэра, найвыдатнейшага правадыра аўстрыйскае сацыял-дэмакратычнае Рабочае партыі, — „Der Aufstand der oesterreichischen Arbeiter“, Brno, 1934.

Отто Баўэр не заплюсчывае вочы на тыя памылкі, якія былі зробляны ў свой час аўстрыйскай сац.-дэмакратыяй: былі, кажа, розныя ўхілы то ў права, то ў лева. Але рубам ставіць пытаньне: ці можна было затрымаць буйны ўзрост рэакцыі ў Аўстрыі?

Гаспадарчы крызыс — ён кажа — абвастрыў клясавыя супярэчнасьці. Аўстрыйская буржуазія, пэўна ж, зьбяднела ў часе паўстаўшага гаспадарчага крызысу. А зьбяднеўшы прадпрыемец ёсьць больш заўзятым ворагам работнікаў, чымся багаты прадпрыемец, ў якога добра ідуць вырабна-гандлёвыя справы. Багаты прадпрыемец з радасьцяй зьмяце некалькі крошак з свайго сытнага стала для сваіх работнікаў; зьбяднелы прадпрыемец ня ўмее інакш забясьпечыць сябе ад пагрозы банкроцтва, як зьнішчэньнем платы сваіх работнікаў і ўхіленьнем іх сацыяльнага забясьпечаньня.

Гаспадарчы крызыс спралетарызаваў дробнае мяшчанства і сялянства; буржуазная дэмакратыя не змагла забясьпечыць шырокія грамады перад гаспадарчым крызысам. Не змагла іх забясьпечыць не таму, што гэта была дэмакратыя, а таму што гэта была буржуазная дэмакратыя, дэмакратыя на аснове капіталістычнае ўласнасьці і вырабнага парадку. Але дробныя мяшчане і сяляне гэтага не зразумелі. Зьбяднеўшы, яны адвярнуліся ў сваім гневе ад дэмакратыі наагул. Пачалі шукаць нешта новае, яшчэ не спрабаванае, а дзеля гатага яшчэ не скампрамітаванае; пачалі шукаць тыя шляхі і спосабы, якія-б іх выратавалі з бядоты. Гэтак прышлі аж да фашызму. Сыны дробных мяшчан і сялян паддаліся на агітацыю фашыстаў пачалі запісывацца ў іх шэрагі. Апынуліся нарэшце пад камандаю буйных абшарнікаў і былых царскіх генералаў, якія мараць аб тым, каб вярнуць сабе прывілеі ўтрачаныя падчас рэвалюцыі 1918 году.

У той самы час, як зьбяднелыя мяшчане і сяляне ішлі пад сьцяг фашызму, работніцкая кляса вельмі аслабеля тым, што больш траціны ўсіх работнікаў апынуліся бяз працы, былі выкінуты з вырабнага працэсу; іншыя баяліся за свае мейсцы.

У выніку паўстаўшага крызісу ўсё больш і больш пачалі абвастрацца клясавыя супярэчнасьці. Узрост фашызму стаў небясьпечнай пагрозаю для работніцкае клясы. Рубам паўстала пытаньне: ганебна капітуляваць, або ў роспачы бараніцца.

Сацыял-дэмакратычная партыя — кажа Отто Баўэр — добра усьведамляла ўсю небясьпеку рэвалюцыйнага паўстаньня. Ведама, як цяжка прышлося-б арганізаваць агульную забастоўку ў той час, калі больш трацiны ўсіх работнікаў ня маюць працы калі рад беспрацоўных ужо аж тры-чатыры-пяць гадой без ніякае працы, калі страшэнная бяда іх зьнішчыла і здэмаралізавала, а калі тыя работнікі, што маюць яшчэ працу, дрыжаць за сваё мейсца. Было ведама, што ўлада спрабуе разьбіць агульную забастоўку насільствам, дзеля чаго агульная забастоўка з усей няўхільнасьцю абернецца ў адкрыты бой. Было ведама, што ў такім змаганьні з аружжам ў руках вораг будзе мець вялікую перавагу ў лепшым узбраеньні.

Сацыял-дэмакратычная партыя, дзеля гэтага, зрабіла ўсё магчымае, каб унікнуць узброенага канфлікту. Бязупынна вяла перагаворы з прадстаўнікамі буржуазных партыяў: аграрнай і хрысьціянска-дэмакратычнай партыямі. Імкнулася да ўстанаўленьня коаліцыі на грунце парляманцкае дэмакратыі, як гэта было ў цягу апошняга дзесяцігодзьдзя. Але дарэмна. Хрысьціянскія дэмакраты, як і аграрныя дэмамакраты зракліся нават і парляманцкае дэмакратыі: пайшлі ў хвасьце фашыстаўскае дыктатуры.

У панядзелак 12 лютага настаў рашучы час. Фашыстаўская баёўка ў Лінцы пачала зьдзейсьняць сваю ўладу. Абвесьціла распушчанымі ўсе дэмакратычныя ўстановы: мястовыя і земскія самаўрады, ў якіх пераважаючую большасьць мела сацыял-дэмакратычная партыя. Разам з тым распачаліся вобыскі і арышты ў сацыял-дэмакратычных арганізацыях. Сацыял-дэмакратычныя работнікі пачалі абараняцца. Умяшалася паліцыя і войска. Распачалося ўзброенае змаганьне, якое перакінулася ў Вену і ў іншыя прамысловыя месты Аўстрыі.

З аднаго боку стаялі работнікі, у большасьці безработныя, з старымі, яшчэ з часу сусьветнае вайны стрэльбамі ў руках і прыгаршчамі патронаў, а з другога боку — войска і паліцыя ў супалцы з фашыстаўскімі баёўкамі, добра ўзброяныя, з браніраванымі аўтамабілямі, з гарматамі, кулямётамі і мінамётамі.

Чатыры дні і чатыры начы ішло ўзброенае змаганьне. Работнікі забарыкадаваліся ў сваіх дамох. Асабліва ў вялікіх работніцкіх дамох, якія ў Вене былі пабудаваны мястовым самаўрадам. Фашысты стралялі па іх з гарматаў. Гэта нічога, што там, за скромнымі занавескамі загінуць бязьвінныя дзеці і кабеты. Абы дасягнуць перамогі...

Абвешчаны быў абложны стан. Распачалі сваю дзейнасьцьць вайсковыя суды. Зьняволяных работнікаў сотнямі пагналі пад суд за ўзброенае паўстаньне. Нават і раняных паўстанцаў засуджвалі на кару сьмерці. Венскі работнік Мюніхрайтэр, бацька трох дзяцей, першы быў прынесяны на насілках у суд: быў цяжка раняны і ня мог хадзіць. Быў прыгавораны на кару сьмерці праз павешаньне. Цяжка

раненага паўстанца-рэвалюцыянэра хрысьціянская ўлада новае Аўстрыі загадывае аднясьці на шыбяніцу...

Фашыстаўская дыктатура ў Аўстрыі сьвяткуе сяньня сваю крывавую перамогу. Усе работніцкія арганізацыі распушчаны. Сацыял-дэмакратычная партыя разьбіта і хто ведае ці аправіцца хоць калінебудзь ад страшнага разгрому. Але няма і ня можа быць ніякага сумніву ў тым, што фашыстаўская ўлада ў Аўстрыі сваей жорсткасьцю і безагляднасьцю яшчэ больш пашырыла і паглыбіла тую прорву, якая істнуе паміж работнікамі ды іх эксплёататарамі. Мо' і пад іншымі сьцягамі, мо' з іншымі баёўнымі поклічамі — не марксіцкімі — аўстрыйскія работнікі ізноў распачнуць змаганьне за сваё сацыяльнае вызваленьне. З усей яскравасьцю аб гэтым сьведчыць вялікі гэраізм на барыкадах у часе лютаўскага паўстаньня. Пралітая кроў н. прападзе дарэмна! — ш.

---

# Агляд беларускае прэсы

## „Беларусь Працы“

Першае зьяўленьне „нацыяналістычнае“ беларускае часопісі „Беларусь Працы“ зрабіла пэўную сэнсацыю. Шмат каму было цікава, як беларускі нацыяналістычны кірунак выглядаціме. Ды каму-ж, як не нацыяналісту належыць намаляваць тую магутнасьць і панаваньне, да якога Беларусь мае дайсьці?! — Гэта ня тое, што сацыялісту, які ў нацыянальных дамаганьнях ня сьмее пераступіць пэўнае мяжы, каб ня страціць свайго сацыялістычнага аблічча. Для нацыналіста ніякіх межаў няма. Імям шавініста ён гардзіцца. Паводле яго, справядліва ўсё, што карысна для ягонай нацыі, бо яго нацыя мае найвышэйшую місыю, і ў параўнаньні з яе інтарэсамі інтарэсы іншых народаў ня маюць ніякае цаны. — Нацыяналіст ня ведае ніякіх кампрамісаў. Яго нацыя павінна панаваць. Калі-ж яе паняволілі, дык уступкі улады для яе ў яго вачох страшней за ўрадавы тэрар. Кожнае мірнае залагоджаньне нацыянальных канфліктаў абніжае баёўнасьць паняволянай нацыі і вядзе неадзоўна да нац. сьмерці. А дзеля таго нацыяналіст будзіць і распальвае міжнацыянальную варажнечу.— Тымчасам нац.-ты з „Б. Працы“ вельмі лагодныя і прытульныя. Ў №5 свае час. у стацьці „І да палянафільства трэба падходзіць больш ідэйна“ яны кажуць што іхнім імкненьнем ёсьць „рэчова і зусім ідэйна наладзіць падставы беларуска-польскага сужыцьця, а гэта шляхам аб'ектыўнага выказваньня ўзаемнае лучнасьці пад паглядамі гістарычна-геаграфічным, культурным, эканамічна-гаспадарчым ды палітычным“... Як бачым з гэтай цытаты, „Б. Працы“ ня мае ніякага нацыяналізму. Што-ж тычыцца „ідэйнага палянафільства“, дык яно зьявілася яшчэ да гр. Сарокі. Яго ў свой час прапагаваў гр. Акінчыц і ў гэтай справе залез у такія цянёты, што нямаведама, ці вылез-бы, каб не падабралі яго хадэкі.

## Хадэцка-палянафільскае суглосьсе.

Прычыны змаганьня, якое адбываецца сёньня паміж хадэкамі палянафіламі, заключаюцца не ў ідэолёгічных разыходжаньнях гэтых групаў, а выплываюць выключна з іх тактычных становішч і то тактыкі сёньняшняга дня: хадэкі ар'ентуюцца на Літву, а палянафілы — на Польшчу. Адносна-ж саміх ідэолёгіяў, то палітычны сьветапагляд хадэцыі ёсьць такі самы рэакцыйны, як і палянафілаў. Каб ня быць галаслоўнымі, прывядзём прыклады.

У сёл. №12 палянафільскага „Роднага Краю" гаворыцца: „Баўгарыя, за прыкладам іншых дзяржаў, пайшла ў кірунку ўзмацненьня выканаўчае ўлады і ўнезалежненьня яе ад палітычных групаў, зрываючы гэтым самым з парлямэнтарызмам, які аджывае свой век." А ў хадэцкім органе „Беларускай Крыніцы" ў №25 б.г. зьмешчаны вялічэзхаўтурны артыкул п. з. „Парлямэнтарызм і сацыялізм уміраюць—корпоратызм нараджаецца." (такой „натуральнай сьмерці" аднак не жадалі-б сабе рэдакцыі „Р. К." і „Б. К.„ — прып. наб.)

Ужо з гэтых двух сказаў ясна відаць, што як хадэцыя, так і палянафілы, зьяўляюцца аднолькавымі праціўнікамі дэмакратыі і адкрытымі староньнікамі фашызму. Дзіўна толькі адно, чаму хадэкі, будучы адкрытымі ворагамі дэмакратыі, усё-ж-такі і надалей упарта называюць сябе дэмакратамі. І як гэта бел. староньнікі фашызму могуць яшчэ гутарыць аб нейкім адраджэньні бел. народу, бо-ж пры ўмовах фаш. дыктатуры аб якім-колечы культурна-нацыянальным або сацыяльна-палітычным разьвіцьці паняволяных народаў і думкі быць ня можа. Калі так, дык дзеля чаго вядзецца гэта фашыстаўская прапаганда? Дзеля чаго ўгаварываецца селяніну, што пятля, якая гатуецца на яго шыю, нічога кепскага сабою не прадстаўляе, і што яна неабходная, бо такі ўжо, маўляў, ход гістарычных падзеяў?!

## Антысэміцкія спробы.

Выйшаў №2(4) час. „Новы Шлях" ужо як орган бел. партыі нацыянал-сацыялістаў. Апошнія ёсьць ведамай групай Акінчыца-Казлоўскага, якая, збанкрутаваўшы на палян. полі, прабуе цяпер на фашызме „сьпячы блінцы". Але і тут, відаць, нашым пагарэльцам ня лепш пашанцуе.

Сваю ідэйную беднасьць і даволі цёмную мінуласьць гэтая група стараецца прыкрыць гадкім антысэмітызмам. Ня супраць прыватнага гандлю і капіталістычнага вызыску наагул выступаюць нашыя „гітлеры" ў сваей часопісі, але супраць жыдоў як нацыі, якія маюць права на істнаньне, як і кожны іншы народ.

Да гэтага часу ў беларускай прэсе антысэміцкіх выбрыкаў ня было, дык спадзяёмся, што беларускае грамадзянства свайго талеранцыйнага адносаньня да іншых народаў ня зьменіць, а розныя Казлоўска-Акінчыцкія нягодныя спробы знойдуць у яго адпаведную ацэнку і належны адпор.

Рэд.-выд.: А. Аніська. Адр. рэд.: Вільня, Тракт Баторага 10—6.

Druk. Kazimierza Lewkowicza Wilno, Św. Michalski 14.